Ніна Змагарка

# ПАМЯТАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНУ!






Выданьне - 1950 - "Ускалось"

Браце! дзе-б ты ня апынуўся ў гэтым сусьветным расьцярушаньні - памятай Бацькаўшчыну!

НІДЗЕ і НІКОЛІ за сваё жыцьцё ты не пачуеш прыгажэйшага ад гэтага слова; таму ня спыняйся пашыраць яго сярод сваіх і чужых, ніколі ня спыняйся славіць тую краіну, якая дала цябе жыцьцё. Калі ты бацька, дык кажы аб ЁЙ сваім дзецям, калі-ж маці - сьпявай аб ЁЙ сваім дзецям і ўнукам, а калі ты яшчэ дзіцё, якое нарадзілася на выгнаньні - бязупынна пытайся аб сваім Краі ад бацькоў. Бацькаўшчына хай будзе ў тваіх думках і падумках, як далёкі, цудоўны абток у акіяне сусьвету, да якога стала мусіць быць скіраваным плыцьцё твайго жыцьцёвага чоўну. Удзень і ўночы, ра-

ніцай і вечарам - памятай аб Краі, успомні яго, пакажай яго штодзень нацией!

При зьмене пораў году - успамінай Бацькаўшчину!

Успомні толькі! Дзе на сьвеце ти знойдзеш гэткую вясну-красуню, калі так рухова палымеюць бярози, пахнуць цудоўния маладия бяразьнякі, пакуль яни толькі ў пупишках! І нідзе яни гэтак ня пахнуць, калі випусьцяць маладия лісьцікі!

Дзе на сьвеце гэтак музична гучаць рэчкі, як на нашай Бацькаўшчине, калі вясной нясуць свае вялікія води. быстрыя

Успомні росквіт, калі ён приходзіў. Спачатку з пяшчотнымі, пакорлівымі, белымі падсьнежнікамі, а потым з сінеючимі і палючимі красачкамі на ўзгорках. А пазьней морам кветак хвалявалі ўсе нашия лугі і балоти, бо кажная краска паказвало

сваю красу, сваю душу.

Успомні падобныя да сьнегавых гораў валы вішняў і яблыняў, што стаялі ля нашых хатаў. Успомні лозы над ручаямі і рэкамі, серабрыстыя таполі. Успомні гудзеньне пчолаў, калі яны лётаюць спачатку па лазьніку, затым па лясох і нарэшце па нашых садох і садкох, калі адчыняюць для іх свае абдымкі мільёны ўсялякіх красак.

Успомні, як плылі вёсны на Бацькаўшчыне, калі плуг і барана рупліва рабілі ўросень перагорнутыя нівы. А як потым выжавілі з пэрасьці зямлі першыя аўсы і гарохі, якія сьпяшаліся зазелянець і вырвацца ў гару бо ведалі, што лета ў нас ня будзе доўгім.

Такія-ж пустрыя і бадзёрыя, як сама прырода, былі і нашыя людзі. Яны сьпяшаліся зрабіць сваю працу, каб дапамагчы вясьне зрабіць усю тую дабрачыннасьць

якую яна пачынала на дабро і радасьць людзям.

Штохвілінна, пакуль туляешся па чужыне, памятай Бацькаўшчыну!

Яна пачыналася красаваньнем ліпаў ды чырваньню землянікі; ды гучэла сакавітасьцю вішняў. Гудзеньнем пчолаў яна пачыналася і адыходзіла, уся поўная цяпла і залацістасьці гоняў, быццам поўная мёду.

Родная летняя ночка! Яна ня духа адрозьнівалася ад дня, гэткай яснай яна была. Бо сонейка толькі крыху хавалася за сіні лясоў ды ўзгоркаў і ня было шмат часу ад захаду да ўсходу. Мага гэтулькі, каб закаханы мог адведаць сваю дзяўчыну, сказаць ёй колькі ласкавых, пальмеючых словаў і павярнуцца да хаты, каб стаці на свой пракос.

Успомні нашае Купальле, калі сонца асягала найкарацейшай дарогі

ночы й дзень выступаў на найвы шэйшы пункт у небе. Успомні агні купальскія, ~~якія~~ што яшчэ болей асьвятлялі і без таго ясную купальскую ночку, каб і сэрцы людзкія не заставаліся неасьветленымі, каб яны запаліліся каханьнем да аднаго і сяброўствам да ўсіх суродзічаў. Успомні нашыя песьні, адначасна вясёлыя і сумныя, якія хвалявалі ў паветры Бацькаўшчыны, па-над нашымі вазёрамі, Дзьвіною, Нёманам, Дняпром, Прыпяцьцю, Сожам; па-над Віленшчынай, Смаленшчынай, Гарадзеншчынай, Віцебшчынай, Магілеўшчынай, Гомельшчынай, Случчынай, Дзьвіншчынай, Полаччынай, Сланімшчынай...

Успомні і летнюю працу на нівах і лугох, калі ты быў яшчэ вольным чалавекам, без акупантаў і іхных паплечнікаў.

Успомні прадсьвяточныя дні па

нашых гарадох: Менск і Вільня, Смаленск і Полацак, Гомель і Берасьце, Горадня і Магілеў, Віцебск і Дзьвінск, Слуцак і Орша Бранск і Ліда...

Успомні нашыя зеляневчыя могілкі, дзе ты мог сустрэцца з душамі нашых родных і блізкіх, як у садку ружаў і падзяліцца із імі ў сваёй бядзе і радасьці, калі ня меў ты блізкіх жывых.

Ці не адчуваў ты ў гадзіны сутоньняў, як па нашай Бацькаўшчыне хадзіў сам Бог, у пэрай камі зэльцы?..

Памятай любае лета Бацькаўшчыны калі ты гібееш пад сьпякотай тропаў пад загрозаю скарпіёнава га ўкусу, каб ты не адпачнў на зямлі. Памятай і на сіверпай поўначы ў няволі, дрэнна апранутн галодны і нявольны ў концах...

Памятай Бацькаўшчыну, дзе ты ўсё меў, але заўсёды скардзіўся на нястачу.

Успомні канец нашага лета, калі ты неў заўсёды пахучы новы жытні хлеб, які гэтак смакаваў із маслам.

Памятай Бацькаўшчыну, калі закол цябе вар'яцелі восенскія, чужыя навальніцы. Успомні тады навальніцы, якія здараліся і на Бацькаўшчыне, ламалі дрэвы ў нашых пушчах і лясох ды хвалявалі нашыя вазёры й рэкі; але яны былі кароткатрывалыя, якія хутка забываліся і восень ты памятаеш, як найбагацейшую пару году.

Успомні толькі, як па вёсках, гонях і лугох, на ўзвышшах і ў нізінах, усюдых падыймаліся бабкі, стагі і копіны. Успомні, тыдні міналі звозячы хлеб, зьбіраючы гародніну. Малатарні гучэлі як восвы, пакуль збожжа не апыналася ў клецях.

Неба наша восені было яснае, упрыгожанае некалькімі палоскамі хмарак, якія міхацелі ў ру-

ховым, зялянкава-сінім прасторы

Успомні,як працуючы на полі ты падымаў галаву, каб пабачыць,ці доўга да вечара.А потым перад табой, як шырокі гасьцінец рассьцілалася жытнішча ў сонечным водбліску, бо зямля суцэльна была пакрытая як-бы шаўковым пакрывалам - павучыньнем.

А потым дрэвы пачыналі бляднець, жаўцець,чырванецца ў самым рознакалёрныя адценьні.

Успомні бадзёрыя восеньскія раніцы,калі прымаразкі ўжо пакрывалі лугі сьнягком. Неба тады на ўсходзе было жоўтым,як воск, а на захадзе палымела шырокая вясёлка. Глухачом тады путлялі ся ўсе поры году і яны пачыналі такаваць як увясну.

Затым спадаў першы сьнег,каб па трох днях ізноў зьнікнуць.

Няглыбокія руччы раніцою зацягваліся цянюткім лёдам, які да вечара зьнікаў,сагрэты сонцам.

Пераважна былі, аднак шэрыя, тумановыя дні, хоць прыгараз-кавыя, але ня сьцюдзённыя. Пакуль павольна прыходзіла зіма

Памятай зіму Радзімы, калі апынуўся, дзе ільлюць даўгія дажджы, а сьнег дзеці бачуць толькі на малюнках кніжок. Успомні тады Бацькаўшчыну ў зімнім спакоі. Сьнегавыя ўзгоркі падымаліся тамака вышэй усялякіх платоў, часта раўняючыся з стрэхамі будынкаў. Замярзалі рэкі і вазёры, што мог ня думаючы хадзіць і езьдзіць куды падабаецца з найвялікшымі цяжарамі.

Успомні родную хату ў лютыя зімы. У полі маглі шалець найлюцейшыя завірухі й вар'яцець маразы,- ты сядзеў утульна у цяплыні і сьвятле пакою. Для скарачэньня часу, для прыдбаньня ведаў, для ўзбагачэньня душы і сэрца табе хапала кніжок у роднай мове. У цябе на паслугах

было і радыю, якое часта і ў роднай мове падавала табе здабыткі культуры і мастацтва.

Але вяршалінай нашае зімы былі Каляды, калі па засьнежаных лясох і гонях, пад аднатонны гук званочкаў ехалі мы да царквы ці ў госьці, дзе цябе, вялікага ці малога, напаўняла радасьцю зіхаценьне сьвятла ў зеляніне ялінкі. Гэта было першай весткай, што найцямнейшыя дні году ўжо перажытыя, што цябе ізноў чакаюць сьвятлейшыя дні з найвялікшым днём - 25 сакавіка.

Памятай Бацькаўшчыну, браце, што гадзіны, штохвілінна, у дні радасьці і гора; асабліва-ж калі цябе добра жывецца. Тады, якраз тады, успомні і аб братох, што змагаюцца і працуюць для і за нас усіх. Ведай, - ні адна маці не чакае і ня сумае гэтак па сваіх дзетках, як сумае і чакае нас усіх нашая агульная і адзіная Маці-Бацькаўшчына!

Дзе-б ты ня жыў, але то не кажы ніколі,- тут мая хата, тут я знайшоў новую Бацькаўшчыну. Бо ведаеш: БАЦЬКАУШЧЫНА МОЖА БЫЦЬ ТОЛЬКІ АДНА,- там дзе ты нара - дзіўся, дзе радзіліся, працава лі і свой век пражылі твае бацькі, дзяды і прашчуры.

Таму, юнача, ці юначка, калі ўкахаеш чужака, з першым поцiс кам рукі кажы яму, ці ёй, аб тваёй прыгожай Бацькаўшчыне. Кажы: - як толькі мая Бацькаўшчына будзе вольнай, мы не застанемся тут. А каб яна хутчэй сталася вольнай мы павінны змагацца за Яе і нашую волю, як мага. Мы пасьпяшаемся ў маю вольную Бацькаўшчыну, якую ты пакахаеш, як пакахаў і мяне. Тут мы толькі лішнія людзі, а там неабходныя, каб жыла Бацькаўшчына, каб мая Бацькаўшчына ня была парожнім гукам і нічога не азначаючым плямам на карце сусьвету.

ПАМЯТАЙ БАЦЬКАУШЧЫНУ !

ПАМЯТАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНУ !
Вітайся гэтымі словамі, гэтымі
словамі й разьвітвайся, сустра-
каючыся з суродзічамі на ўсім
белым сьвеце!

Трымай Бацькаўшчыну глыбака ў
тваім сэрцы! Трымай Яе, як твой
найвялікшы й найдаражэйшы скарб
які нельга згубіць. Згубіўшы
Бацькаўшчыну, ты згубіш і сам
сябе. Таму раніцай у с т а в -
а й з ЯЕ імям на вуснах і ве-
чарам кладзіся моля
чыся за ЯЕ!

П А М Я Т А Й

Б А Ц Ь К А Ў Ш Ч Ы Н У !